

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (59)
ТРАВЕНЬ 2017 ГОДА

НАШЫ КУРАПАТЫ

# ЛАТЫСКІ СЬЛЕД У ХАЙСАХ

**Толькі рэчавыя доказы могуць аспрэчыць афіцыйную вэрсію пра «пахаваньне ахвяраў вайны» ля вёскі Хайсы пад Віцебскам.**

Калі гэтая вэрсія знойдзе фактычнае абвяржэньне, то мясцовым уладам давядзецца прызнаць, што ў лесе каля вёскі Хайсы знаходзіцца пахаваньне ахвяраў сталінскага тэрору.

Першыя крокі ў гэтым кірунку ўжо зробленыя ўдзельнікамі ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты».

З 2014 году ў лесе пад Віцебскам знаходзяць чалавечыя парэшткі — косьці і чарапы з кулявымі адтулінамі ў патыліцах. Верагодна, невядомае раней пахаваньне разварушылі «чорныя капальнікі». Вяскоўцы-старажылы ўспамінаюць, што ў канцы 1930-х у лесе якраз тут адбываліся «сталінскія расстрэлы». Гэтыя ўспаміны старанна запісваюць ўдзельнікі ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты», створанай сябрам КХП БНФ Янам Дзяржаўцавым. Але словы мясцовых жыхароў ўлады не прынялі ў якасьці галоўнага аргумэнту. Невядомае дагэтуль масавае пахаваньне аднесьлі да часоў мінулай вайны, і парэшткі перапахавалі ў брацкай магіле пад чырвонай зоркай.

Сёлета гісторыя паўтарылася. У тым самым лесе знайшлі яшчэ некалькі раскапаных ямаў з чалавечымі парэшткамі. Віцебскія актывісты зьвярнуліся ў сельскі выканкам, каб эксгумацыя праходзіла з удзелам навукоўцаў, а ня толькі сіламі 52-гаспэцыяльнага пошукавага батальёну.

У Хайсы прыехаў Алег Іоў, старшы навуковы супрацоўнік аддзелу археалёгіі Сярэднявечча і Новага часу Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. Ён двойчы браў удзел у сьледчых дзеяньнях, якія цывільная і вайсковая пракуратуры праводзілі ў Курапатах, і лічыць, што фактура пахаваньняў вельмі падобная.

Прадстаўнікі пошукавага батальёну пакуль зьбіраюць парэшткі і рэчы, сыстэматызуючы знаходкі. Фатаграфаваць іх актывістам забаранілі. Але вайсковы археоляг Вадзім Тамілін паказаў знойдзены фрагмэнт жаночага грабеньчыка, на якім надрапана імя «Оля» і частка прозьвішча верагоднай гаспадыні. Удзельнік грамадзкай ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Карапаты» Андрэй Кешанюк правёў уласнае дасьледаваньне.

**Верагодная гаспадыня грабеньчыка — рэпрэсаваная настаўніца Вольга Данцыт**

Пошукі прывялі яго ў вёску Матушова Лёзьненскага раёну, расказаў спадар Кешанюк:

«Прозьвішча на грабеньчыку далёка не самае распаўсюджанае: відаць першую літару „Д“, потым „а“, потым „н“, за ёй — дзьве вэртыкальныя рыскі, як у „п“ або „ц“, а сьледам — „и“. Гэта апошняя літара, якая засталася на абламаным кавалачку. Я праверыў па сьпісах рэпрэсаваных, якія ёсьць у інтэрнэце. З усіх прозьвішчаў, якія пачынаюцца з Дан-, потым нявызначаная літара, а за ёй „и“, несумненна вылучаецца адно: „Данцит“. Прычыму сьпісе рэпрэсаваных значыцца менавіта Вольга Данцыт, латышка, якая нарадзілася ў 1910 годзе ў вёсцы Матушова Віцебскага раёну. Жыла ў Віцебску, працавала настаўніцай у школе № 30 і была расстраляная 30 красавіка 1938 году нібыта за антысавецкую дзейнасьць у складзе латыскай контррэвалюцыйнай арганізацыі».

Андрэй Кешанюк вызначыў, што прозьвішча «Данцит» або «Данцыт» сустракаецца ў розных сьпісах рэпрэсаваных 7 разоў, і амаль усе гэтыя людзі паходзяць зь вёскі Матушова. Нехта зь іх быў расстраляны, нехта сасланы... Каб знайсьці сваякоў згаданых асобаў, спадар Кешанюк адшукаў сучасьнікаў з такімі самымі прозьвішчамі ў сацыяльных сетках. Два чалавекі ўжо адгукнуліся і пацьвердзілі: так, іхныя сваякі былі рэпрэсаваныя. Расстралялі ня ўсіх — кагосьці саслалі на Поўнач. Верагодна, праз гэта нашчадкі Данцыты і трапілі ў Чалябінскую вобласьць...

**Перасяленцы з Латвіі аднымі зь першых сталі ахвярамі сталінскага тэрору**

Стваральнік ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» Ян Дзяржаўцаў таксама паходзіць зь Лёзьненскага раёну. Ён прыгадаў падзеі 1994 году:

«Якраз у Лёзьне мы зьбіралі подпісы перад прэзыдэнцкімі выбарамі, і да мяне падышоў чалавек ужо ў сталым веку. Стаў распавядаць, што менавіта з Сутоцкага сельсавету ў 1930-я гады дзясяткамі і сотнямі вывозілі сем'і латышоў. Калісьці латышы перасяліліся сюды, бо тут было шмат зямлі: ім давалі ўчасткі лесу, каб выкарчоўвалі сабе пад гаспадарку. Яны працавалі дзень і ноч, пацікy абжываліся. І, відома, не хацелі ісьці ў калгасы. За гэта і траплялі ў «ворагі народу».

Каб пашукаць нашчадкаў рэпрэсаваных Данцытаў, Ян Дзяржаўцаў і Андрэй Кешанюк прыехалі ў вёску Матушова — на радзіму верагоднай уладальніцы грабеньчыка, знойдзенага на могільніку ў Хайсах. Паводле апублікаваных у інтэрнэце сьпісаў, вяскоўцы з прозьвішчам Данцыт траплялі пад рэпрэсіі двойчы: у 1931-м, падчас калектывізацыі, і ў 1938-м, за «дзейнасьць» у складзе антысавецкай групоўкі.

**Апошняя прадстаўніца матушоўскіх Данцытаў памерла ў 1974 годзе**

На сёньняшні дзень Данцытаў у вёсцы ужо не засталося, сказала мясцовая жыхарка, 79-гадовая Вера Пісарава:

«Апошняй была Ксенія Данцыт, яна працавала ў калгасе, памерла ў 1974 годзе. Дзяцей у яе не было, ужо ў сталым веку яна сышлася з Іванам Жаўлачэнкам. Тая хата, дзе яны жылі, цяпер стаіць пустая... Увогуле ж у нас прынята казаць „сядзіба“, так заведзена з даўніх часоў. Сядзібаў даўно няма, але мясьціны так і называюцца: „сядзіба Данцыт“, „сядзіба Паўкшэн“. У нашай вёсцы заўжды жыло шмат латышоў, і амаль у кожнай сям'і былі рэпрэсаваныя. У 1930-я забралі таксама майго дзеда, яго звалі Аўгуст Паўкшэн, і дзядзьку Арвіда. Няхай бы ўжо толькі дзеда ўзялі, ён стары быў, а дзядзька дык зусім малады! Абвінавацілі, што дзед багаты быў. А які ён багаты? Прыехалі з Рыгі, мелі з сабой карову ды каня, а дуба прывязалі, а жытла не было... На Малую зямлю іх кудысьці адправілі. Там яны й згінулі. Нам потым даслалі паперу, што яны невінаватыя. А што тая папера, калі яны ўжо больш не вярнуліся!»



Імёнаў Арвіда і Аўгуста Паўкшэнаў няма ў сьпісах рэпрэсаваных, складзеных «Мэмарыялам». Але згадваюцца іншыя ўраджэнцы вёскі Матушова з такім самым прозьвішчам. На мясцовых могілках пахаваная Паўліна Паўкшэн, бабуля спадарыні Веры.

**Прозьвішчы «Паўкшэн», «Эзэрын» таксама ў сьпісах рэпрэсаваных з Матушова**

Сустракаюцца і магілы з прозьвішчам «Эзэрын». Гэты род таксама мае сваіх рэпрэсаваных: 79-гадовая Валянціна Краўцоваяшчэ не нарадзілася, калі забралі бацьку, Івана Эзэрына. Спадарыня Валянціна кажа, што пра тыя падзеі чула ад маці:

«Не было мяне на сьвеце яшчэ, маці ўсё аддала, дык яе яшчэ й піхнулі, цяжарную... Я нарадзілася 27 сьнежня 1937 году, ужо бяз бацькі... Паводле дакумэнтаў, яго расстралялі ў Віцебску 30 студзеня 1938-га. Але пасьля вайны мы нават у вышук падавалі. Думалі, раптам ён у жывых недзе ёсьць? Дык нам і адказ даслалі, што жывы. Мы так радаваліся! А праз тыдзень прыйшло новае паведамленьне, што яго няма, што гэта была памылка».

Жонка рэпрэсаванага Івана Эзэрына была малапісьменная, але дужа працавітая. Рабіла ў калгасе, была ўганараваная званьнем Героя сацыялістычнай працы. Праца і падарвала яе здароўе: жанчына памерла ў 65 гадоў.

У даведцы пра рэабілітацыю Івана Эзэрына ёсьць памылкі: па-першае, у прозьвішчы прапушчана літара. Пад прозьвішчам «Эзрын» ён значыцца і ў сьпісах «Мэмарыялу».

**Дзе расстрэльвалі вязьняў віцебскай турмы НКУС, дагэтуль невядома**

У гэтых сьпісах, што да латышоў зь вёскі Матушова, пазначана агульнае: «расстраляны ў Віцебску». Але вязьняў віцебскай турмы НКУС у горадзе не расстрэльвалі — вывозілі ў навакольныя лясы...

Ня выключана, што такім чынам у невядомым масавым пахаваньні каля вёскі Хайсы Віцебскага раёну апынуўся грабеньчык з надпісам «Оля Дан(ц)и» без апошняй літары. Расстраляная настаўніца Вольга Данцыт была па бацьку Аляксандраўнай. Як і апошняя жыхарка вёскі Матушова з такім прозьвішчам — Ксенія Аляксандраўна Данцыт. Ці былі яны сёстрамі, або мае месца простае супадзеньне, ужо ніхто ня скажа.

Са сьмерцю Ксеніі скончыўся тутэйшы радавод Данцытаў — латыскіх перасяленцаў на Лёзьненшчыне. Яны карчавалі лясы, каб збудаваць сядзібы для сябе і нашчадкаў. І месцам апошняга спачыну для некаторых таксама стаў лес. Верагодна, «расстрэльны лес» каля вёскі Хайсы, якую ўжо называюць «віцебскімі Курапатамі».

**«Радыё Свабода»**

АДПАЧЫНАК

# ОДИН ПЛЯЖ ДЛЯ ОТДЫХА

**Всего в 2017 году в Витебской области для массового отдыха определены 124 пляжа. Они будут обеспечены 134 туалетами и 119 парковками.**

В Витебском районе пляж устроен на озере Сосно в деревне Должа. В Витебске местными органами власти определены 7 мест для массового отдыха: на реке Витьба в районе Юбилейного моста и водозабора №1; на реке Двина в парке Мазурино (имени Советской Армии), парке 1000-летия, парке Фрунзе и площади Победы (спуск к реке), а также на водоеме в АГ Сокольники в районе Южной котельной.

Лидером по количеству мест массового отдых является Россонский район, где выделили места для 13 пляжей, на втором месте — Браславский район с 10 пляжами. Меньше всего мест для отдыхающих в Витебском районе, затем в Бешенковичском и Толочинском районах — по 2 пляжа.

Все эти пляжи должны быть оборудованы туалетами, урнами и мусорными ящиками, а также обустроенными автостоянками. Согласно информации Витебского областного комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды, на пляже в Долже 4 туалета, в Мазурино — 2, а на остальных пляжах по одному.

**А.Адамов**

СПОРТ

# ЕЎРА ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ ВЕЛАРУХУ

**Праект па развіцці веларуху ў Беларусі некамерцыйнай установы «Цэнтр экалагічных рашэнняў» перамог у конкурсе EuropeAid, арганізаваным ЕС. Для яго рэалізацыі паступіла 560 тысяч еўра.**

Да рэалізацыі праекта "Цэнтр экалагічных рашэнняў" і "Мінскае роварнае таварыства" прыступілі ўжо з сакавіка бягучага года. У жніўні 2019 года ён будзе завершаны.

«За 30 месяцаў мы правядзём сацыяльна-эканамічную ацэнку, якая пакажа, наколькі выгадна будзе ўладам развіваць веларух у нас у краіне, — распавяла намеснік дырэктара цэнтра Дар'я Чумакова. — У Мінску мы створым інфраструктуру, якая дазваляе ўкараніць веларух у транспартнае асяроддзе горада».

Дзякуючы праекту людзі змогуць больш актыўна выкарыстоўваць ровар для сваіх перамяшчэнняў па сталіцы, зручней будзе дабрацца да прыпынкаў грамадскага транспарту, дзе на спецыяльнай перахопнай стаянцы ахвотныя змогуць пакінуць свой ровар. З'явіцца магчымасць перавозкі ровараў і ў грамадскім транспарце — сёння гэта зрабіць цяжка. На веладарожках плануецца ўсталяваць лічыльнікі, якія будуць улічваць колькасць ровар ыстаў

«Гэтымі задачамі займецца рабочая група, якая цяпер фармуецца. Дадаткова мы створым электронны інфацэнтр і карту веламаршрутаў у беларускіх гарадах».

Дар'я Чумакова адзначыла, што ў акцы будуць удзельнічаць і абласныя гарады Беларусі, а пры актыўным удзеле велааматараў могуць быць задзейнічаны райцэнтры.

**Сяргей Гудзілін**

ЗДАРЭННЕ

# НАПАДЕНИЕ НА ДЕВОЧКУ

**25 мая в 17:20 в милицию Витебска по телефону 102 обратилась женщина. Она сообщила, что на ее 9-летнюю внучку в подъезде дома напал неизвестный мужчина.**

Нападавший повалил девочку, пытался сорвать одежду. Школьница стала кричать и оказала сопротивление. Эти действия, вероятно, и спугнули злоумышленника, и он убежал.

Всем нарядам милиции в Витебске передали приметы напавшего на ребенка мужчины, которые сообщила потерпевшая, а также дополнительные сведения, собранные в результате опроса жителей дома. Через час схожего с описанием мужчину задержали сотрудники Департамента охраны в районе Витебской областной клинической больницы.

Правоохранительные органы предварительно установили, что нападение на девочку совершил 34-летний житель Витебского района, ранее неоднократно судимый. На данный момент проводятся необходимые следственные действия, сообщаетотделение информации и общественных связей УВД Витебского облисполкома.

ДАПАМОГА

# НОВОСТИ «КРАСНОГО КРЕСТА»

**«Первая помощь спасает жизни» под таким девизом 8 мая стартовал месячник Красного Креста, который продлится до 1 июня.**

**Многочисленные благотворительные акции по сбору средств и пожертвований для оказания помощи наиболее уязвимым категориям населения — этими и другими мероприятиями ознаменуется он в Витебском районе. Об этом рассказала председатель райорганизации БОКК Ольга Бизикова.**

— Витебская районная организация БОКК совместно с отделами идеологической работы, культуры и по делам молодежи, образования, спорта и туризма, управлением по труду, занятости и социальной защите райисполкома, а также учреждениями здравоохранения подготовила специальный план мероприятий, посвященных самым незащищенным слоям населения — одиноко проживающим пенсионерам и инвалидам.

**— Ольга Игоревна, в минувшем году месячник Красного Креста прошел под девизом «Активное волонтерство». Какими акциями, проектами он запомнился?**

— Проводилась широкая информационная работа в поддержку деятельности районной организации БОКК. Наиболее активное участие в ней приняли отделы идеологической работы, культуры и по делам молодежи, образования, спорта и туризма райисполкома, городская поликлиника № 7.

В рамках районного мероприятия в аг. Копти, посвященного71-ойгодовщине Победы советского народа в Великой Отечественной войне, волонтеры БОКК и инициативных групп «Золотой возраст» пропагандировали здоровый образ жизни. Желающие могли получить консультацию по правильному питанию, измерить рост, вес и давление. Акция имела продолжение и в других населенных пунктах района.

В учреждениях образования были созданы информационные группы из числа учащихся и учителей.

Витебская районная организация Красного Креста совместно с отделом образования, спорта и туризма райисполкома в рамках месячника провела акцию «Радуга добрых дел», направленную на поддержку творчества детей из сельской местности. Центром детей и молодежи Витебского района реализован проект «Ожившие рисунки».

Представителинашегорайона приняли участие в III областных детских Дюнановских чтениях.

В Международный день защиты детей на базе районной библиотеки прошел праздник, который запомнился ребятам из летнего оздоровительного лагеря гимназии № 6 игровой программой под открытым небом, проведенной волонтерами организации, рассказом о Белорусском Обществе Красного Креста и направлениях его деятельности.

В течение месяца велась работа по распространению знаний о Международном движении Красного Креста и гуманитарных ценностях. Об этом за круглым столом вела речь инициативная группа «Дабрабыт» в аг. Новка. Во время встреч с трудовыми коллективами Витебской бройлерной птицефабрики, Замосточской детский сад—средней школы, работниками библиотечной системы была донесена информация об организации, принципах и видах предоставляемой ею помощи, разговор шел и о возможных гранях сотрудничества.

Витебская городская поликлиника № 7 с целью обучения населения правилам измерения артериального давления провела акцию «120/80», во Всемирный день без табака — «День без сигарет». Немало привлекли внимания общественности мероприятия, приуроченные ко Всемирному дню памяти людей, умерших от СПИДа.

За период месячника собрано и перечислено на расчетный счет БОКК более 580 рублей.

**— Ольга Игоревна, насколько тесное взаимодействие учреждений образования и районной организации Белорусского Общества Красного Креста? Какие проекты удалось совместно воплотить в жизнь?**

— Между нами налажено тесное плодотворное сотрудничество. Это проявляется в работе волонтерских отрядов «Милосердие» (акции «Забота», «Поделись теплом своей души», «Дом без одиночества», «Руку другу протяни», «Все краски жизни для тебя» и др. по сбору вещей для многодетных, малообеспеченных семей, несовершеннолетних, находящихся в социально опасном положении, а также направленные на помощь ветеранам войны и труда, одиноко проживающим пожилым людям в ведении домашнего хозяйства, детям-инвалидам, обучающимся на дому и т. д.), организации работы в шести учреждениях образования факультативного курса«Исследуемгуманитарное право»,проведениисеминаров, тренингов, интерактивных игр для педагогических работников, учащихся и их родителей по профилактике распространения ВИЧ. С целью эффективного изучения основ профилактики ВИЧ/СПИД в учреждениях образования используется принцип «равный обучает равного». В мае минувшего года волонтерами Дворца творчества детей и молодежи г. Витебска проведен семинар-тренинг для учащихся Кировской средней школы, совместносзональнымцентром гигиены и эпидемиологии, райорганизацией БОКК — для педагогов, курирующих вопросы профилактики ВИЧ/СПИД в учреждениях образования. В его рамках прошла акция «Красная ленточка памяти» к Международному дню памяти людей, умерших от СПИДа.

Дни здоровья, спартакиады, спортивные праздники, в том числе ко Всемирному дню здоровья, Всемирным дням без табака, борьбы с ВИЧ/СПИДом, наркоманией и наркобизнесом, к Международному дню Красного Креста и Красного Полумесяца, — эти и другие мероприятия по пропаганде здорового образа жизни среди населения получили поддержку со стороны учреждений образования и ФСК «Урожай» и отметились своей массовостью.

**— Насколько широкий отклик нашла волонтерская деятельность среди подростков и молодежи в нашем районе?**

— О масштабах этой работы свидетельствуют многочисленные благотворительные акции, инициированные учреждениями образования и самими ребятами. С целью оказания адресной помощи одиноко проживающим гражданам, сбора денежных средств, одежды, обуви, игрушек и канцтоваров для детей с ограниченными возможностями, воспитанников детского дома, несовершеннолетних из многодетных и малообеспеченных семей проведены акции: «День добра», «Согрейте детские сердца», «Милосердие без границ», «Дети — детям», «Тепло сердец — детям», «Красный Крест — детям» и другие. В рамках месячника Красного Креста в учреждениях образования проведены мероприятия, направленные на развитие и продвижение молодежного волонтерского движения как формы участия в жизни общества и решения социальных проблем, выработку толерантного отношения к людям с ограниченными физическими и психическими возможностями. Проведена работа по сбору средств детям, находящимся на длительном лечении. Всего оказана гуманитарная помощь 231 ребенку из 76 многодетных, малообеспеченных семей, семей, в которых несовершеннолетние признаны находящимися в социально опасном положении. Посильная помощь оказана 65 ветеранам войны и труда, одиноко проживающим пожилым людям.

**— Ольга Игоревна, какова цель нынешнего месячника?**

— Продвижение ценностей гуманизма, привлечение внимания общественности к социальным проблемам, призыв к принятию совместных усилий для их преодоления и облегчения страданий конкретных людей. — Исходя из этого, обозначены и тематические мероприятия.

**— Что в текущих планах?**

— Среди акций, семинаров и встреч — оказание медико-социальной помощи одиноким пожилым гражданам и инвалидам при активном участииволонтеров;посещение ветеранов и инвалидов Великой Отечественной войны сестрой милосердия совместно с волонтерами Красного Креста; обучение населения оказанию первой медицинской помощи; проведение благотворительных мероприятий в домах-интернатах, больницах сестринского ухода для пожилых людей; проведение показательных мастер-классов в общественных местах по оказанию первой помощи и многое другое.

Главная задача всех мероприятий — вовлечь как можно больше людей в общественно полезную работу и волонтерскую гуманитарную деятельность. Присоединиться к добрым делам может каждый.

**— Спасибо, Ольга Игоревна, за беседу.**

**Татьяна Диканова**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

НАША ЎЛАДА

# СТАМІЎСЯ АД УЛАДЫ

**Цяпер ужо мала хто памятае, што 10 сьнежня 2013 году Лукашэнка правёў вялікую нараду па пытаньнях будаўнічай галіны, якая праходзіла ў Палацы Незалежнасьці і працягвалася амаль 6 гадзін. На яе былі запрошана больш за 250 удзельнікаў, у тым ліку вышэйшыя службовыя асобы краіны, чальцы ўраду, кіраўнікі мясцовай вэртыкалі ўлады.**

Тады кіраўнік Беларусі назваў гэта мерапрыемства знакавай падзеяй і паабяцаў, што падобныя нарады стануць рэгулярнымі, на іх будуць абмяркоўвацца найбольш надзённыя і значныя для людзей пытаньні разьвіцьця эканомікі і грамадзтва на сярэднетэрміновую пэрспэктыву. Лукашэнка адзначыў, што гэты форум бачыцца яму свайго роду аналягам пленума Цэнтральнага Камітэту Кампартыі ў савецкія часы, калі з усіх рэгіёнаў зьбіраліся кіраўнічыя кадры і адкрыта абмяркоўвалі, сумесна вырашалі найважнейшыя пытаньні жыцьця грамадзтва.

Ён заявіў: «Такога фармату і шырокага складу ўдзельнікаў патрабуюць як актуальнасьць тэматыкі, так і неабходнасьць усебаковага абмеркаваньня рэальнай сытуацыі ў вельмі важных сфэрах дзейнасьці, каб дайсьці да кожнага рэгіёну, кожнай арганізацыі... Неабходна часьцей, як мінімум раз на паўгода, зьбірацца ў такім складзе, каб на сыстэмнай аснове даваць сыгналы ўсяму грамадзтву пра праблемы, якія ўзьнікаюць, і шляхі іх вырашэньня... Таму мы дамовіліся, што ў пэрспэктыве такія нарады стануць нормай».

Лукашэнка анансаваў, што дзьве наступныя нарады будуць прысьвечаныя праблемам ЖКГ і разьвіцьцю аграпрамысловага комплексу.

Хутка будзе чатыры гады, як былі абнародаваныя тыя пляны. Але ніякіх падобных нарадаў у выглядзе пленумаў ЦК больш не адбылося.

Пра гэта можна было б забыцца, калі б ня новыя факты нязьдзейсьненых плянаў і абяцаньняў.

Таксама было абяцаньне правесьці вялікую нараду па пытаньні адукацыі ў краіне.

На сакавік была заплянаваная нарада па пытаньнях рэфармаваньня дзяржаўнай уласнасьці. Гэтага патрабуе МВФ.

Старшыня Цэнтрвыбаркаму Ярмошына некалькі разоў паведамляла, што ў сакавіку павінна была прайсьці нарада па рэфармаваньні выбарчага заканадаўства. На гэтым настойваюць АБСЭ і Эўразьвяз.

Але ўсе гэтыя пляны і намеры падвісьлі.

9 сакавіка Лукашэнка даручыў да 1 красавіка дапрацаваць дэкрэт № 3 аб дармаедах і прадставіць яму на подпіс. Але лёс дэкрэту невядомы.

14 сакавіка Лукашэнка заявіў, што трэба заслухаць справаздачу ўраду пра тэндэнцыі і сытуацыю ў эканоміцы па выніках першага квартала. Мерапрыемства плянавалася правесьці ў пашыраным складзе, зьбіраліся запрасіць больш за 300 чалавек. Прайшло больш за месяц, першы квартал скончыўся, і 21 красавіка, выступаючы з пасланьнем да беларускага народу і Нацыянальнага сходу, Лукашэнка чарговым разам паабяцаў: «Больш дэталёва сытуацыю ў эканоміцы краіны мы бліжэйшым часам разгледзім на пасяджэньні ўраду, а дакладней, пры справаздачы ўраду перад прэзыдэнтам. Гэта будзе бліжэйшым часам з удзелам нашых дэпутатаў і сэнатараў, Нацыянальнага банку, усёй вэртыкалі ўлады і кіраўнікоў найважнейшых арганізацый».

Ужо канец траўня, хутка скончыцца другі квартал, а нарады ўсё няма.

Такім чынам, мы маем цікавую і вельмі адметную сытуацыю. Да таго, што палітычнае кіраўніцтва ня ў стане вырашыць ніводнае эканамічнае пытаньне, мы ўжо неяк прызвычаіліся. Ніводзін праект па мадэрнізацыі не завяршыўся посьпехам, то бок ня стаў акупным.

Але цяпер мы бачым, што нават праўдзеньне чыста бюракратычнага мерапрыемства становіцца вялікай праблемай. Бо ў кіраўніцтва няма адзінства і ідэй, яно проста ня здольнае да ўцямных рашэньняў. Гэта прыкмета паралічу дзяржапарату. Адзінае, што ён можа, — гэта прыдушыць апазыцыю і вулічныя пратэсты.

Напрошваецца адна гістарычная аналёгія. У апошнія гады свайго жыцьця хворы і стары Ёсіф Сталін рэдка прыяжджаў у Крэмль. Ён сядзеў на дачы ў Кунцаве і час ад часу прымаў сваё бліжэйшае атачэньне, прычым позна вечарам у форме застольляў. Паколькі ўся сыстэма дзяржаўнага кіраваньня была завязаная на адным чалавеку, то насьпелыя рашэньні па пытаньнях палітычнага, эканамічнага і грамадзкага жыцьця не прымаліся. 13 гадоў не праходзілі зьезды Кампартыі, гадамі не праводзіліся пленумы ЦК. Сталін стаміўся ад працы і цешыўся сваім статусам паўбога.

І брэжнеўскі застой надышоў тады, калі першая асоба апынулася ў стане фізычнай і псыхалягічнай неадэкватнасьці.

У палітычнай сыстэме, дзе ўсе больш-менш важныя рашэньні прымаюцца на вяршыні адміністрацыйнай пірамiды, вельмі шмат залежыць ад першай асобы. Любая замінка гэтай асобы паралізуе працу ўсяго дзяржаўнага апарату. І справа тут ня толькі ў пэўнай разгубленасьці і адсутнасьці новых ідэй, няздольнасьці рэагаваць на новыя выклікі. Чалавек за 23 гады ва ўладзе можа проста стаміцца. Хочацца адпачыць. Дый хакейную трэніроўку нельга ж прапускаць.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ» БЕЗ БЕЛАРУСАЎ

**Поспех рэформаў у першую чаргу залежыць ад здольнасці рэфарматараў ствараць кааліцыі ў сваю падтрымку. Прапануем 3001-е абмеркаванне праграмы «Вольная Беларусь», падрыхтаванай калектывам аўтараў на чале з Зянонам Пазьняком.**

**Невясёлая сацыялогія**

У першым абзацы дакумента палітычны рэжым у Беларусі названы недэмакратычным і аўтарытарным. Адзначаецца, што ён праводзіць палітыку прамаскоўскай унутранай акупацыі і русіфікацыі. Абмяркоўваць тут, на першы погляд, няма чаго. Палітыка кожнага аўтарытарнага і недэмакратычнага рэжыму можа разглядацца як акупацыйная. Гэта падставовая паліталагічная ісціна.

Звернемся па каментар да амерыканскага эканаміста Мансура Олсана, які разглядаў сучасныя дзяржавы як вынік супрацьстаяння паміж бандытамі-гастралёрамі і мясцовымі стацыянарнымі бандытамі. Калі першыя абіраюць насельніцтва па максімуму, дык другія «аптымізуюць забраныя ў насельніцтва даходы, пачынаюць зберагаць іх і інвеставаць», што стварае ўмовы для трансфармацыі бандытаў у кіраўнікоў-аўтакратаў.

Такім чынам, для правядзення палітыкі ўнутранай акупацыі ўладзе не абавязкова быць прамаскоўскай. Свая, родная ўлада з гэтай задачай здольная выдатна спраўляцца. Яна ж не па ўказанні з Масквы, а дзеля вырашэння ўласных задач зацікаўленая ў русіфікацыі.

Звернемся да табліцы, складзенай на падставе апытанняў НІСЭПД. У год першых прэзідэнцкіх выбараў у паўсядзённых зносінах карысталіся беларускай мовай 16%, праз тры гады — 6%, а яшчэ праз два — толькі 3%. Адкуль такая дынаміка? Ніякая палітыка русіфікацыі не магла быць яе прычынай, тым больш, што колькасць рускамоўных за гэты ж час не ўзрасла, а скарацілася!

Парадокс тлумачыцца проста. Перабудова перавяла насельніцтва былых рэспублік СССР са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння, складовай часткай якога стала нацыянальная (этнічная) мабілізацыя. Але ўжо да другой палове 1990-х гадоў яе рэсурс быў вычарпаны. Звярніце ўвагу на дынаміку варыянтаў адказаў: «руская і беларуская» і «змяшаная». У 1994 годзе прызнацца нават самому сабе ў выкарыстанні трасянкі рэспандэнту было няпроста. Але ў 1997 годзе ўсё ўстала на свае месцы.

**ЯКОЙ МОВАЙ, У АСНОЎНЫМ, ВЫ КАРЫСТАЕЦЕСЯ Ў ПАЎСЯДЗЁННЫХ ЗНОСІНАХ?, %**

| Мова зносін | 11'94 | 11'97 | 03'99 | 06'15 |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 16 | 6 | 3 | 3 |
| Руская | 68 | 41 | 42 | 69 |
| Руская і беларуская | 7 | 20 | 27 | 12 |
| Змяшаная | 6 | 35 | 27 | 16 |
| Іншая | 2 | 1 | 1 | – |

У год першых прэзідэнцкіх выбараў будучы адзіны палітык (АП) дзейнічаў рацыянальна, калі зрабіў двухмоўе часткай сваёй выбарчай праграмы. У маі 1995 года на першым канстытуцыйным рэферэндуме за наданне рускай мове роўнага статусу з беларускай прагаласавала 83,2% ад колькасці тых, хто прыняў удзел у рэферэндуме. Неабходна падкрэсліць, што падлік галасоў забяспечвала даярмошынская ЦВК. Пры яе бесстароннасць сведчыць, у прыватнасці, яўка ў 64,8%. Праз паўтара года яўка падскочыла на 20 пунктаў — да звыклых па цяперашніх мерках 84,2%! Але гэта ўжо іншая гісторыя.

**Нібы вавёрка ў коле**

Беларускае грамадства, на думку аўтараў дакладу, засела ў XX стагоддзі. У гэтым галоўны вынік антынароднага рэжыму. Прыметнікі «аўтарытарны» і «антыдэмакратычны» нязгоды ў мяне не выклікаюць. Але чаму рэжым антынародны?

У 1994 годзе на першых і апошніх свабодных прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі АП у другім туры падтрымала 80,3% выбаршчыкаў ад колькасці тых, хто прагаласаваў (56% ад спісачнага складу), ягонага апанента, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, — 14,2%. Паводле ўсялякіх мерак — больш чым пераканаўчая перамога!

Аднак звернемся да вынікаў першага тура. Кандыдаты ад нацыянальна-дэмакратычных сіл (Пазьняк, Шушкевіч) атрымалі на дваіх 22,7%, а іх ідэйныя апаненты з прасавецкага лагеру (Дубко, Кебіч, Лукашэнка, Новікаў) — 72,4% пры яўцы 79%. Калькулятар падказвае, што падтрымка другіх апынулася ў 3,2 разы вышэйшай. Больш пераканаўчай ілюстрацыі электаральнай структуры беларускага грамадства, мабыць, і не знайсці.




Першыя і ўсе наступныя прэзідэнцкія выбары зафіксавалі галоўную характарыстыку беларускага грамадства — раскол. Для разумення яго прыроды нам спатрэбіцца ўяўленне пра два тыпы ўзнаўлення культуры: статычны і інтэнсіўны.

Першы ўласцівы традыцыйнай цывілізацыі. Ён накіраваны на падтрыманне ўсіх сістэм грамадства ў нязменным стане ў адпаведнасці з уяўленнямі, што ідэалізуюць мінулае. Другі пануе ў ліберальнай цывілізацыі. Ён характарызуецца імкненнем пастаянна павышаць сацыяльную эфектыўнасць.

Сучасная Беларусь, безумоўна, выйшла за рамкі традыцыйнай цывілізацыі, але перайсці мяжу ліберальнай цывілізацыі так і не здолела. Яна затрымалася ў прамежкавым стане, які спалучае элементы абедзвюх цывілізацый.

«Раскол, — тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, — паталагічная стагнацыя, што характарызуецца супярэчнасцю паміж субкультурамі адной культуры». У нашым выпадку, гэта субкультуры, якія склаліся пад уплывам традыцыйнай і ліберальнай цывілізацый.

Расколатае грамадства — нібы вавёрка ў коле — бяжыць па крузе, бо актывізацыя каштоўнасцяў адной часткі грамадства прыводзіць у дзеянне сілы іншай часткі грамадства, якая адмаўляе гэтыя каштоўнасці. Як тут ні прыгадаць ліберальную хвалю, спароджаную перабудовай, а ўслед за ёй актывізацыю прадстаўнікоў сацыяльнай перыферыі. Іх электаральная актыўнасць і забяспечыла першую перамогу будучама пентачэмпіёну.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ОКОЛО ШКОЛЫ

# А КОЛЯ ВДРУГ ПЕРЕДУМАЛ…

**Коля не поддержал папу в его стремлении перенести начало уроков на 9 утра.**

Чтобы окончательно не сойти с ума, давайте восстановим события по порядку.

21 апреля Лукашенко заявил, что его сын Николай не высыпается на уроках и хорошо бы начинать занятия в 9 утра. «Дать ребенку час утром поспать», – распорядился руководитель страны и потребовал «не смотреть, что родителям сложно в школу отправить ребенка, потому что они раньше идут на работу».

Уже на следующий день, 22 апреля, журналисты заловили министра образования и прямо поинтересовались, будут ли менять расписание в школах, на что тот ответил: «Давайте не будем пока будоражить родительскую общественность». И рассказал примерно все то, о чем родители и СМИ говорили весь следующий месяц: о позднем окончании второй смены, о подвозах детей к школам и графиках работы родителей.

Но президент на этом не успокоился, и уже 12 мая жестко потребовал: «Надо нам менять график работы школ. Раньше девяти часов уроки начинать не надо».

Пока родители и учителя негодовали, указывая, что в системе образования есть и более насущные проблемы, нежели невысыпающийся Коля, Министерство потихоньку начало высылать письма с требованием начинать занятия в 9 утра или дать, как минимум, серьезное обоснование, почему это невозможно.

И тут случилось самое смешное. 16 мая выяснилось, что та самая школа в Острошицком городке, где на первом уроке «все спят» и Коля «прикорнул», ничего в своем графике менять не собирается. Там вообще были искренне удивлены вопросом о том, готовы ли они перенести на час уроки: «У нас же дети из Бродка ездят, на 7:20».

Но Лукашенко не сдавался и продолжал настаивать. Скоро белорусы узнали, что согласно санитарным нормам и правилам, оптимальное время для начала уроков в школе — 9 утра. (Интересно, а где можно получить компенсацию за подорванное здоровье тем, кто все школьные годы проучился с 8-ми или «недосып» зачтется в трудовой стаж при выходе на пенсию?)

«Как вы думаете, кто победит? Коля или родители всей страны?»

А пока школы придумывали лазейки, как «свинтить» от такого настойчивого предложения, Минобразования 26 мая официально подтвердило: уроки начинать с 9 утра! Лукашенко лично доложили, что его распоряжение выполнено и более 80% школ будут начинать занятия в новом учебном году с 9 утра.

В общем, школа взяла равнение на Колю. Но тут оказалось, что Коля передумал. Вернее, даже не передумал, а в принципе и не хотел ничего менять в своем школьном графике.

Рассказывая сегодня про реакцию сына на инициативу о переносе начала уроков, Лукашенко поведал:

— Утром одно мнение я уже получил: ты не то делаешь, не надо в 9 часов. Как родители детей повезут? Это же не сын президента едет, — процитировал глава государства слова своего сына, посещая сш №61.

Вот так: школы «ператрахнули», детей напрягли, родителей заткнули, за один месяц переписали все правила и нормы. И все ради одного мальчика, которого папа, оказывается, не так понял. Ну разве не анекдот?

И можно было бы посмеяться, если бы героями этого анекдота не оказались все мы.

**Светлана Метёлкіна**
**gazetaby.com**

НАВАЦЫЯ

# БЕЛОРУСЫ ХОТЯТ РЕФОРМ…

**Почти 79% граждан Беларуси — за реформы. Но глава государства держится за анахроничную экономическую модель, опасаясь политических рисков ее трансформации, а Лукашенко переводит стрелки на контроль за ценами…**

Александр Лукашенко похвалил инициативу Федерации профсоюзов Беларуси (ФПБ) организовать народный контроль за ценами на торговых объектах. Независимые экономисты считают, что это популизм. Нужно развивать рынок, конкуренцию, а не (как любили некогда выражаться большевики) бить по хвостам.

Причем сегодня, похоже, даже рядовая масса настроена по отношению к экономическим реформам прогрессивнее, чем руководство Беларуси. В этом плане показательны результаты свежего исследования Белорусской аналитической мастерской (БАМ, Варшава), которой руководит известный социолог Андрей Вардомацкий. 78,9% белорусов ответили «да» на вопрос, нужны ли нашей стране экономические реформы.

**У нас контролеров и так до черта**

«Слышал, что вы хотите организовать народный контроль за ценами в магазинах, — заметил Лукашенко 19 мая на встрече с председателем ФПБ Михаилом Ордой. — Все в отчетах статистики и правильно, и хорошо по методикам, но в магазинах по основным товарам, основным продуктам питания ситуация может быть другая. Какая она — кто, как не профсоюзы, это лучше всего знают».

Эта сцена оставила впечатление хорошо продуманного и разыгранного перед широкой публикой спектакля.

Независимые обозреватели, оппозиция критикуют ФПБ за полную лояльность, подыгрывание властям. Официозные профсоюзы сидели как мышь под метлой, когда в феврале — марте по всей стране проходили вспыхнувшие именно на почве социального неблагополучия протесты так называемых дармоедов.

А теперь вот и глава государства, и ФПБ демонстрируют заботу о том, чтобы содержимое потребительской корзины не слишком разоряло простого человека.

«Если не растут доходы, то не должны расти и цены. А что мы видим? Многие ведомства поднимают их на глазах», — рассуждает Орда. Теперь в ФПБ создана рабочая группа по мониторингу цен на социально значимые товары и услуги.

Да, но белорусская экономика и так страдает от засилья контролеров. Даже Лукашенко время от времени требует, чтобы проверок стало меньше, чтобы предпринимателей не так дергали.

А тут получается, что армия контролеров лишь вырастет. Причем полномочия и компетентность рекрутируемых профсоюзами проверяльщиков под вопросом. Все это слишком уж смахивает на большевистскую борьбу со спекулянтами.

**Инфляцию может спровоцировать именно «забота о народе»**

Правда, в последние несколько лет правительству и Национальному банку удалось сбить инфляцию. После сумасшедшего 2011 года, когда цены подскочили на 108,7%, их индекс последовательно снижался: 2012 год — 21,8%, 2013 — 16,5%, 2014 — 16,2%, 2015 — 12%, 2016 — 10,6%. За январь — апрель нынешнего года по сравнению с показателем за декабрь потребительские цены выросли на 2,4%.

Так что есть все шансы уложиться в годовой прогноз инфляции — 9%. Если — внимание! — экономику не начнут накачивать пустыми деньгами, исполняя указание Лукашенко довести среднюю зарплату в нынешнем году до тысячи рублей.

Иначе говоря, угрозу чересчур стремительного роста цен несет в себе именно волюнтаристская задача форсированного увеличения зарплат. Напомню: гиперинфляционный взрыв 2011 года последовал именно после того, как к президентским выборам-2010 среднюю зарплату взвинтили до 500 долларов в эквиваленте.

Лукашенко, памятуя печальный опыт, ныне твердит, что повышать заработки следует за счет роста производительности труда.

Но давайте прикинем. За март средняя зарплата в Беларуси составила только 770,6 рубля. Поднять ее до конца года еще на 230 рублей за счет скачка производительности (выбрасывать людей с предприятий Лукашенко запрещает), тем более в условиях затяжной рецессии (только в последние месяцы фиксируется слабое оживление экономики: 0,5% роста ВВП за январь — апрель), просто-напросто невозможно. Значит, снова велик риск наступить на те же грабли.

**Массу достала безнадега**

Прошли времена, когда изрядная часть населения по-детски радовалась хрустящим свежеотпечатанным купюрам в кошельках накануне очередной избирательной кампании. Электорат, похоже, уловил: это у нас не к добру, потом жди обвала.

Действительно, уже дважды за годы своего правления Лукашенко давал белорусам по 500 долларов среднего заработка в эквиваленте, и оба раза после этого экономика мстила. Следовали обвал курса национальной валюты, скачок инфляции, а уровень средней зарплаты снова падал ниже сакральной черты.

Экономисты подчеркивают, что виной — старая экономическая модель, которая просто не может обеспечить высоких темпов роста и на этой базе — натурального повышения благосостояния.

Но поскольку на самом верху политической воли к реформам очевидно недостает, Лукашенко раз за разом возвращается к идеи фиксу административного удержания цен при административном же (через давление на вертикаль, директорат) подъеме зарплат.

В частности, выступая 21 апреля с ежегодным посланием, президент, раскритиковав министра торговли за ставку на конкуренцию как регулятор цен, заявил: «И никакие реформаторы и МВФ вам не указ. Контролируйте ценообразование… Не слушайте никого, кто будет убеждать вас в необходимости либерализации».

Между тем среди населения ныне, как видим, силен запрос именно на экономические реформы. Здесь, правда, следует отметить, что саму суть реформ масса понимает неоднозначно.

Например, согласно тому же опросу, проведенному БАМ в период с 28 марта по 13 апреля по всей Беларуси (в нем приняли участие 1063 человека по репрезентативной выборке), из тех, кто выступает за реформы, 57,4% считают, что суть реформирования должна состоять в уменьшении роли государства в экономике, а 31,1%, напротив, полагают, что государство должно увеличить свою роль в экономике.

Это означает, что массу уже достала безнадега. Это значит, что публику не греют спектакли с фальшивой заботой о народе.

***Александр Класковский***
**БЕЛАПАН**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.05.2017 у 16.45
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.